


№ 1
Ліпень
1943



## Часапіс для кіраўнікоў моладзі

Выдавец: М. Ганько

# ПРЫВІТАЛЬНЫ ЛІСТ
## Сп. ГЭНЭРАЛЬНАГА КАМІСАРА

Менск, 14 жніўня 1943

Найлепшымі пажаданьнямі вітаю першы нумар новага часапісу моладзі «Жыве Беларусь».

Гэты часапіс павінен выходзіць, як орган кіраўнікоў Саюзу Беларускае Моладзі. Ён павінен даваць кіраўніком і кіраўнічкам беларускае моладзі, якія на груньце Новай Эўропы змагаюцца супроць бальшавізму, нагоду да абмену думкамі. Часапіс павінен у добра прадуманых артыкулах выражаць супольны скарб ідэяў кадраў кіраўнікоў і быць для беларускае моладзі зброяй у змаганьні супроць бальшавізму і жыдоўства.

У ім павінен выражацца здаровы дух моладзі Новай Эўропы і культывавацца сувязь і вернасьць да нямецкага народу і да Правадыра Адольфа Гітлера. Разам з гэтым, зьместам новага часапісу павінна быць любасьць да беларускае Бацькаўшчыны і Беларускага народу.

Хай-жа ён дапамагае у службе беларускай моладзі і няхай ягонае змаганьне за Новую Эўропу прывядзе да перамогі на беларускім груньце.

Шлю свае найлепшыя пажаданьні беларускай моладзі і ейнай працы. Хай-жа станецца сымбалем тое вызнаньне, якое часапіс бярэ за сваё імя:

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

Гэнэральны Камісар у Менску
Вільгэльм КУБЭ

*М. ГАНЬКО*
*ш/ф-праваднік*

# МЭТА І ЗАДАНЬНІ САЮЗУ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ

Усе народы здаўна прызналі за бясспрэчную праўду, што моладзь зьяўляецца будучыняю народу, і заўсёды аддавалі самую вялікую увагу узгадаваньню яе. Гэта зусім зразумела: моладзь, якая сяньня бястурботна можа займацца гульнёй і забавай, заўтра вырасьце на сталых грамадзянаў і стане ля плуга, ля рабочага ці рамесьніцкага варштату, або урэшце за прафэсарскай катэдрай, каб заступіць старэйшых, сваіх-жа бацькоў. Моладзь — патэнцыяльнае заўтра народу, і хаця мы гэтага сяньня азначана сказаць ня можам, але загадзя ведаем, што сярод яе ёсьць і будучыя дзяржаўныя мужы, і паэты, і кампазытары, і мастакі, і навукоўцы — будучая нашая слава і гордасьць. Таму няма больш удзячнае і мілае працы, як праца над узгадаваньнем моладзі, і чым раней і разумней праводзіцца гэтая праца, тым лепшыя даець яна вынікі. Зусім слушна прыраўноўваюць яе да працы земляроба, які апрацоўвае глебу, каб пасеяць зерняткі збожжа.

Беларуская моладзь «узгадоўвалася» дагэтуль так, як загадвалі нашыя ворагі—палякі, жыды і маскоўскія бальшавікі. Яны не узгадоўвалі, а проста калечылі беларускую моладзь. Заміж таго, каб даць ёй нацыянальную сьведамасьць, яны яе палёнізавалі ці русыфікавалі. Заміж таго, каб узбудзіць у ёй высокія ідэалы гонару, абавязку, сумленнасьці, вернасьці і самаахвярнай ідэйнасьці, яны псавалі яе маральна і раскладалі уплывамі матар'ялізму. Заміж заходня-эўрапэйскае культуры беларуская моладзь вучылася хуліганства ці плоскае палітуры «савецкага грамадзяніна».

Два гады таму Беларусь скінула з сябе ненавіднае ярмо бальшавізму. Дзякуючы нямецкай перамозе ня будуць больш зьдзекавацца над намі ні польскія паны-акупанты, ні жыдоўскія камісары. Да дня другіх угодкаў вялікага сьвята вызваленьня, Беларускі народ атрымаў найвялікшы падарунак ад самога Правадыра Вяліканяммеччыны Адольфа **Гітлера:** 22-га чырвеня 1943 было урачыста абвешчана сп. Гэнэральным Камісарам Беларусі гаўляйтарам Вільгэльмам **Кубэ** заснаваньне Саюзу Беларускае Моладзі, як адзінай арганізацыі, якая, побач із бацькаўскім домам і школай, мае права на узгадаваньне беларускае моладзі. Гэты дзень азначаець эпоху ня толькі для беларускае моладзі, якая упяршыню у гісторыі атрымала с в а ю собскую і незалежную нацыянальную арганізацыю, але і для усяго Беларускага народу, бо гэты факт значыць, што Беларускаму народу адназначна прызнаная будучыня і правы нацыі, якая атрымае сваё месца у Новай Эўропе.

Саюз Беларускае Моладзі мае выканаць вялікае і аднаразовае заданьне у нашай гісторыі: усьведаміць і адрадзіць Беларускі народ, стагодзьдзямі прыдушаны ворагамі-суседзьмі, а нарэшце зусім замучаны жыда-бальшавікамі, і скансалідаваць яго вакол аднэй ідэялёгіі: нацыянальнага аздараўленьня і сацыяльнага упарадкаваньня. У васобе свае моладзі Беларускі народ далучаецца да Эўропы і бярэ на сябе місію быць усходняй мархіяй арыйскага Захаду, як ён быў ёй калісьці, мужна і слаўна адбіваючы татарскія і маскоўскія паходы із стэпаў Азіі.

Саюз Беларускае Моладзі ставіць сабе за мэту узгадаваць маладых, ідэйных, сьмелых і пасьлядоўных будаўнікоў Новае Беларусі і падрыхтаваць іх да іхных будучых заданьняў у народзе, да працы і змаганьня на дабро і славу свае Бацькаўшчыны.

Беларусь, да якой імкнецца СБМ, — Новая Беларусь, адроджаная у дусе Новай Эўропы у цесным супрацоўніцтве з усімі эўрапэйскімі народамі. Не аднаўляць старое, аджытое, а будаваць новае, рэвалюцыйнае ідзе беларуская моладзь пад сваім нацыянальным бел-чырвона-белым сьцягам.

Каб добра служыць сваёй мэце, Саюз Беларускае Моладзі мусіць змагацца з усімі чужымі і шкоднымі уплывамі, з усім тым, што варожае беларускасьці, а тады ужо узяцца за татальнае узгадаваньне беларускае моладзі, якое павінна раўнамерна і гарманічна разьвіваць усе бакі людзкое істоты: цела, дух і душу.

Фізычнае узгадаваньне павінна даць моладзі здароўе, сілу і радасьць жыцьця. Усе дрэнныя прывычкі, якія шкодзяць здароўю, усё тое, што разьядае цела і душу моладзі, мусіць зьнікнуць.

Беларуская моладзь горнецца гэтак ахвоча да навукі і да культуры. Саюз Беларускае Моладзі пакажа ёй шлях да заходня-эўрапэйскае культуры і, насамперш, да свае роднае, беларускае, — навучыць любіць, пашыраць і разьвіваць свае родныя песьні і казкі, танцы і звычаі, вопратку і будаўніцтва, любіць свой народ і ягоную мову, свой край і ягонае прыгаство.

Дарма, што жыды і бальшавікі калечылі цэлае чвэрцьвечча маральную душу беларускае моладзі, — забіць яны яе не забілі, і яна пачынае прабуджацца, паказвае сваё здаровае аблічча і вясёла усьміхаецца насустрач новаму жыцьцю. У маладых душах трэба сьцерці сьляды матар'ялізму і ачысьціць іх ад усяго наноснага злога, а затое асьвятліць іх агнём мужнасьці, вернасьці і праўдалюбнасьці, сагрэць іскрой маладога ідэялізму.

Малады беларус павінен забыцца на усё тое, што пхалі яму у галаву злыдні-чужынцы, а сказаць сабе: «я беларус, у маіх жылах плыве кроў арыйскіх прашчураў і я буду такім, якім мяне стварыла прырода — дужым і мужным, сумленным і працавітым, гордым і вялікадушным. Я пагарджаю усім брудам і маной, ненавіджу баязьліўца і злодзея, адкідаю усякую брыду і усё нізкое». Маладая беларуска павінна расьці на сьведамую грамадзянку, павінна любіць і ахоўваць скарбы беларускае культуры, вучыцца працаваць і быць вернай і сумленнай жанчынай. Яна павінна сказаць: «Я каралеўна із слаўнае беларускае сям'і і не дазволю сплямiць майго гонару, буду вернай жонкай і кахаючай маткай, каб узгадаваць новае пакаленьне беларускіх арлянятаў-герояў».

Нашыя ворагі, палякі і бальшавікі, падзялілі былі жывое цела Беларусі рыскай мяжою на дзьве часткі, якія цэлых 20 гадоў крывавілі незагоенаю ранаю—на Заходнюю і Усходнюю Беларусь. Сяньня гэтая мяжа разбураная, і паваленыя тыя слупы, якія аддзялялі гоні родных усходніх і заходніх братоў-беларусаў. Мы, моладзь, даложымся да таго, каб у нашым народзе, як мага хутчэй, зьнiклі сьляды гэнага ганебнага падзелу. Браты мы — кажам мы сабе — хоць і жывём адны у Менску, другія у Вялейцы, трэйція—у Лідзе, а чацьвертыя—у Слуцку. Калі сяньня адчуваецца яшчэ нейкая розьніца у нашай гаворцы у розных ваколіцах, дык гэта дробязь і яна зьнікне хутка бяз сьледу, калі мы будзем больш міжсобку гутарыць і прыслухоўвацца адзін да аднаго. Таксама ня маюць для нас значаньня рэлігійныя розьніцы. Рэлігія застаецца асабістай справай кажнага із нас. Мы пакідаем кажнаму вольную руку выбіраць сабе, што ён хоча, і будзем узаемна паважаць свае перакананьні. Сварыцца-ж нам няма чаго, бо мы усе дзеці аднае маці—Беларусі і служым аднаму Беларускаму народу.

Мы знаем, што адзіным, што застаецца несьмяротным на гэтым сьвеце, зьяўляюцца творы людзкога духу і людзкое працы, аддадзеныя на службу народу. Мы верым, што той ня жыў зусім, хто жыў толькі для сябе, а той ня згінуў, хто памёр для свае Бацькаўшчыны, і таму будзем працаваць, як волаты, і змагацца, як гіганты, каб толькі жыў у дабрабыце і славе наш народ.

Старэйшае беларускае пакаленьне перадае нам слаўную спадчыну працы і змаганьня за беларускую справу, якую яно перахавала для нас у бурах і нягодах цяжкое мінуўшчыны нашага народу. Мы бяром у свае маладыя рукі разьвеяны бурным ветрам вайны бел-чырвона-белы беларускі сьцяг, на якім красуецца нашая эмблема: старадаўнае князёўскае двукрыжжа з крывіцкае Пагоні і запраўдныя знакі сацыялізму, лапата і меч. Панясём яго, грудзьмі прабіваючы чырвоную бальшавіцкую буру-завею, што прэцца, каб затапіць крывёю наш беларускі край. Панясём аж да таго сонцам залітага раньня, якое адчыніць нам сьветлае заўтра Беларусі.

Мы, маладыя, верым у сваю праўду, у сваю долю і у сваю сілу, і запэўняем, што не зьвядзём надзеі тых, хто верыць нам і верыць у нас.

Шчыльнымі радамі у сваіх дружынах маршыруе беларуская моладзь за сваім беларускім кіраўніцтвам, пад сваім беларускім сьцягам і із сваім магутным клічам перамогі: Жыве Беларусь!

*Д-р Н. АБРАМАВА*

# БЕЛАРУСКАЯ ЮНАЧКА У ВАДБУДОВЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Эпоха, у якой мы жывём — эпоха надзвычайная. Упяршыню у гісторыі, пасьля стагодзьдзяў прыгнёту, нашая Бацькаўшчына—Беларусь атрымала магчымасьць працаваць для сябе, над узьняцьцем свайго дабрабыту і свае культуры.

Людзі, у жылах якіх плыве гарачая крывічанская кроў, ня могуць сяньня стаяць у баку. Яны выходзяць сяньня на адбудоўную працу для Бацькаўшчыны. На чале гэтага гістарычнага паходу — Саюз Беларускае Моладзі. У ягоных стройных, расьсьпяваных калёнах шмат і нашых яснавокіх юначак. Ім належыць ладная роля у вагульным змаганьні за шчасьце народу.

Беларуская юначка ведае сваё мінулае — прыгнёт, зьнясіленьне, зьдзекі, цемра... Цяпер яна удыхае, быццам пах вясны, грукат і вір адбудовы: высілкі, напружаньні, змаганьне, жар перакананьняў... Яна верыць у будучыню, прамяністую будучыню свайго краю, дзе будзе упарадкаванае культурнае жыцьцё у дастатку, згодзе, агульным задавальненьні. Беларуская юначка палка верыць у выніку сяньняшняга змаганьня, і таму бадзёра бярэцца да працы.

Ёй ведамая палітыка нашых ворагаў на працягу апошніх стагодзьдзяў. Яны імкнуліся зьнішчыць у беларусах нацыянальнае пачуцьцё. Гэтая палітыка то рацчыняла яго у польскім шляхоцтве, то тапіла яго у расейскай «народнасьці», то нэўтралізавала яго у пустэчы сусьветнага інтэрнацыяналізму.

Цяпер беларуская дзяўчына ставіць за мэту, высока узьняўшы бел-чырвона-белы сьцяг свайго народу, склікаць пад яго разагнаныя рады крывічанаў. Беларускай песьняй, казкай, роднай мовай, народным танцам сваіх вечарынак яна кранае за сэрца тых, што адыйшлі у няволю ворагаў, і вабіць іх ізноў да роднае Маці - старонкі, да творчае новае працы для ейнага дабрабыту і славы.

Ведае беларуская юначка: няпісьменнасьць, бяскультур'е, адвечны жабрацкі выгляд вёсак і нашага народу далёка адсунулі наш прыгожы край ад суседзяў. Ён марнеў у цяжкой працы на чужынцаў, ад раньня да начы ня мог зірнуць на сябе, над сабой папрацаваць, здагнаць тых, хто выходзіў наперад. Яго моцна спавіваў каўтун, заядала кароста, разам з паразытамі ад чалавека да чалавека перапаўзала эпідэмічная пошасьць. За гэта цураўся яго культурны сьвет суседзяў. За гэта пачалі глядзець на яго, як на дзікі. А ці быў ён вінаваты?...

Беларуская юначка ведае, як апошнімі гадамі зьвярыная мараль бальшавізму, ігнаруючы усе біялёгічныя падставы, намагалася вытруціць у жанчыне ейныя спэцыфічна жаноцкія рысы, і перэтварыла яе у істоту, «роўную» мужчыне. Гэтая «роўнасьць» выяўлялася у тым, што ёй дазваляліся усе віды цяжкое фізычнае працы, усе мужчынскія прафэсіі. З цягам часу жанчына была цалкам адарваная ад сям'і, ейных дзяцей гадавалі чужыя, хатняе гаспадаркі яна зусім ня ведала. Эпоха Сталіна пераварыла жанчыну у нікчэмную істоту нейкага прамежкавага роду. У выніку — заняпад гаспадарнасьці і зьнясіленьне жаноцкага арганізму.

Сяньня сяброўка СБМ змагаецца за зварот жанчыне тыповых жаноцкіх рысаў ейнага характару. СБМ варочае жанчыну сям'і, робячы яе душой гэнае сям'і, варочаець яе самую для узгадаваньня сваіх дзяцей, даець ёй у рукі гаспадарскія ключы і усё, што належыць да ейнае кіраўнічае працы у хаце, як жонкі і маткі, абараняець яе ад цяжкіх відаў працы на прадпрыёмсьцьве і раіць ёй тыя прафэсіі, якія пасуюць жанчыне.

Апрача гэтага беларуская дзяўчына парывае з бальшавіцкай мараляй, а разьвіваць будзе сваю здаровую арыйскую і беларускую натуру. Працавітасьць, дамавітасьць, нацыянальнае пачуцьцё, паслухмянасьць, саромлівасьць, вернасьць — вось тыя рысы, якія павінны быць адноўленыя у беларускім тыпе жанчыны.

Беларускія юначкі, якія праз курсы - лягеры набудуць адпаведныя веды і стануць кіраўнічкамі сярод юначак, будуць праводзіць спортавыя заняткі, гутаркі узгадавальнага зьместу, будуць вучыць беларускіх дзяўчат шыцьця і крою, вышываньня і гатаваньня ежы. Праз разгортваньне гародаў і птушарняў, праз умацаваньне сельскагаспадарскае веды, праз уцягненьне у хоры і іншыя мастацкія гурткі яны усебакова разаўюць уменьне і здольнасьці беларускае дзяўчыны. Толькі гарманічнае разьвіцьцё усіх магчымасьцяў асобы створыць поўнавартасны тып жанчыны: добрае дачкі свае Бацькаўшчыны, спрытнае, умелае гаспадыні, вернае жонкі і любячае разумнае маці.

Слаўны крывіцкі сьцяг із сымбалічнай адзнакаю Саюзу Беларускае Моладзі ня будзе зганьбаваны. Пад ягоным павевам, у праменьнях шчырага сяброўства із моладзяй Вяліканямеччыны, крочыць маладая Беларусь у сьветлае раньне Новай Эўропы.

Мацнеюць песьні. Шчыльнеюць рады. На вольных прасторах Радзімы шырыцца воклiч: «Жыве Беларусь!»

## ЗАСНАВАНЬНЕ САЮЗУ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ

**Сп. Гэнэральны Камісар у Менску зацьвердзіў з дзеяньнем ад 22. 6. 1943 ахоп беларускае моладзі у Саюзе Беларускае Моладзі і пры гэтым пастанавіў наступнае:**

**«1. Дзеля аднастайнага узгадаваньня і арганізацыі беларускае моладзі засноўваецца Саюз Беларускае Моладзі.**

**2. Узгадаваньне беларускае моладзі з фізычнага, духовага і маральнага гледзішча, апрача бацькоўскага дому і школы, перадаецца Саюзу Беларускае Моладзі.**

**3. Заданьне узгадаваньня беларускае моладзі у Саюзе Беларускае Моладзі перадаецца Кіраўнічаму Штабу Саюзу Беларускае Моладзі.**

**Дзеля кіраваньня Кіраўнічага Штабу я вызначаю Шэфа Кіраўнічага Штабу, які рэпрэзэнтуе Саюз Беларускае Моладзі і мае сваю сядзібу у Менску.**

**Шэф Кіраўнічага Штабу Саюзу Беларускае Моладзі беспасярэдня падначальваецца мне».**

**Гэнэральны Камісар у Менску**
**сябра Райхстагу**
**Вільгэльм КУБЭ.**

# СТАТУТ
# АРГАНІЗАЦЫІ МОЛАДЗІ „САЮЗ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ (СБМ)

## УСТУП

Беларускі народ, які больш за 300 год прыгнятаўся палякамі і маскалямі, а на працягу апошняга чвэрцьвечча асабліва войстра калечыўся маральна і духова жыда-бальшавізмам, патрабуе грунтоўнага аздараўленьня і загаеньня усіх ранаў, нанесеных яму ягонымі сьмяротнымі ворагамі.

Гісторыя сьцьвярджае, што будучыня народу залежыць ад узгадаваньня і апекі над ягонай моладзяй і што якая сяньня моладзь, такім будзе заўтра сам народ. Дык, побач із спробамі пераўзгадаваньня у новым дусе старэйшага беларускага грамадзянства, трэба безадкладна узяцца за грунтоўнае узгадаваньне беларускае моладзі.

Беларусь і Беларускі народ павінны атрымаць арыентацыю на Новую Эўропу, каб ісьці да яе разам з усімі эўрапэйскімі народамі пад правадырствам Вяліканямеччыны. Дык-жа у гэтым кірунку павінна сяньня пачацца узгадаваньне беларускае моладзі. Яна павінна зразумець гістарычны сэнс змаганьня супраць бальшавізму і жыдоўства і ацаніць эпахіяльную ролю вялікага нямецкага народу, які адчуў сілу і адвагу узяць на сябе місію крыжовага паходу супраць жыдоўска-бальшавіцкае навалы. Асабліва моцна павінна яна усьведаміць сабе усё гістарычнае значаньне таго, што яна жывець у эпоху Адольфа Гітлера, Правадыра Новай Эўропы.

З расцэньваньня і разгляданьня беларускае справы пад эўрапэйскім гледзішчам вынікае далей і узгадаваньне беларускае моладзі у дусе нацыяналізму і патрыятызму, абапёртых на высокіх маральных якасьцях паасобнай адзінкі. Гэтыя маральныя якасьці павінны таксама базавацца на дусе Новай Эўропы, кіраванай нацыянал-сацыялістычнаю Нямеччынай.

Ставячы гэткія мэты перад узгадаваньнем беларускае моладзі, мы выказваем цьвёрдае пераконаньне, што у сучасны мамэнт гэтага заданьня ня можа выканаць самастойна ані бацькоўскі дом, ані школа, дзякуючы тым абставінам, якія якраз маюць месца у старэйшым беларускім грамадзянсьцьве. Гэтае заданьне можа выканаць толькі арганізацыя моладзі—«Саюз Беларускае Моладзі».

## АГУЛЬНЫЯ ВЫЗНАЧЭНЬНІ

1. Арганізацыя моладзі у Гэнэральнай акрузе Беларусі мае назоў «Саюз Беларускае Моладзі». Яна зьяўляецца самаўзгадавальным згуртаваньнем маладых беларусаў і беларусак дзеля адбудовы і пераўзгадаваньня Беларускага народу. Яна зьяўляецца адзінай арганізацыяй, якая, побач із школай і бацькоўскім домам, мае права на узгадаваньне моладзі.
2. «Саюз Беларускае Моладзі» будзе выконваць свае заданьні праз тварэньне радавых узгадавальных грамадаў.
3. Арганізацыі «Саюзу Беларускае Моладзі» служаць упаасобку наступныя вызначэньні:

### § 1

### МЭТА І ЗАДАНЬНІ

Мэтай «Саюзу Беларускае Моладзі» зьяўляецца узгадаваць маладых, ідэйных, мужных і паслядоўных будаўнікоў Новае Беларусі і падрыхтаваць іх да іхных будучых заданьняў у народзе.

Таму СБМ мае служыць выкананьню наступных заданьняў:

Вызваліць беларускую моладзь ад варожых і шкодных уплываў, адрадзіць яе маральна і узгадаваць у дусе Новае Беларусі пад моцным правадырствам нацыянал-сацыялістычнае Нямеччыны..

Правесьці нацыянальна-патрыятычнае узгадаваньне праз азнаямленьне з мінуўшчынаю беларускага народу і краю, вывучэньне роднае беларускае мовы і культуры, разьвіцьцё сваіх нацыянальных асаблівасьцяў і пазнаньне свае Бацькаўшчыны.

Маральным узгадаваньнем выжыць у народзе нявольніцкую псыхіку, якая прынесла Беларускаму народу такую цяжкую шкоду. Матар'ялізму з усімі зьявамі, якія яго суправаджаюць, трэба супроцьпаставіць высокія пачуцьці і дабрачыннасьці ідэялізму, грамадзкага пачуцьця, пачуцьця абавязку, працавітасьці, гэраізму і праўдалюбнасьці. Гэтак павінны быць разьвітыя рысы душы і характару, каб Беларускі народ, які мае чыста арыйскае паходжаньне, можна было з годнасьцяй прыняць у сфэру эўрапэйскае культуры, а насамперш у вабсяг культуры заходня-эўрапэйскае.

Фізычным узгадаваньнем выпрацаваць тып фізычна дужага, працаздольнага і жыцьцярадаснага беларускага юнака і здаровае беларускае дзяўчыны, якая у будучыні павінна стацца высока-маральнаю жонкай і добраю маткай.

У культурнай працы і разьвіцьці нацыянальных асаблівасьцяў даць беларускай моладзі магчымасьць зьвярнуць свой погляд да невычарпальных багацьцяў двутысячагоднай арыйскай культуры і пазнаць мінуўшчыну свайго народу і ягонага жыцьцёвага прастору.

Праз добрую школьную і спэцыяльную асьвету і навучаньне грамадаведы беларуская моладзь павінна пачуць сваю адказнасьць за долю і дабрабыт Бацькаўшчыны і заўсёды быць гатовай працаваць для свайго народу і краю і служыць ім.

Выконваць усе заданьні і кампаніі, якія будуць давацца арганізацыі для дабра усяго народу.

### § 2

### ВЫКАНАНЬНЕ ЗАДАНЬНЯЎ

Усе гэтыя заданьні СБМ выконваюцца праз зборкі, ранішнікі, экскурсіі і лягеры, школеньне кіраўнікоў, працоўныя грамады і лягеры і г. д. СБМ уважае выкананьне гэтых заданьняў, як і усіх далейшых, якія загадае Кіраўнічы Штаб, за свой першы і пачэсьнейшы абавязак.

### § 3

### СЯБРЫ І ПРЫЙМО ІХ

У СБМ можа уваходзіць моладзь у веку ад 10 да 20 год шляхам дабраахвотных заяваў аб уваходзе.

Жыды у СБМ ня прыймаюцца. Ад падавальніка заявы можа патрабавацца пасьветчаньне аб паходжаньні. Шэф Кіраўнічага Штабу СБМ захоўвае за сабой права адхіліць паасобныя заявы аб уваходзе без паданьня матываў. Пры уваходзе у СБМ можа патрабавацца прыймовая складка, якую устанаўляе Кіраўнічы Штаб.

Выхад з арганізацыі адбываецца пасьля сканчэньня 20-га году жыцьця. Перад дасягненьнем гэтага веку выхад можа адбыцца на грунце дабраахвотнае пісьмовае заявы аб выхадзе, або у моц дысцыплінарнага спагнаньня. Заява аб выхадзе выконваецца толькі пасьля выкананьня усіх забавязальніцтваў перад СБМ.

### § 4

### АРГАНІЗАЦЫЯ

Арганізацыя моладзі «Саюз Беларускае Моладзі» можа ствараць пададдзелы, патрэбныя дзеля выкананьня пастаўленых заданьняў. Яна падразьдзя-

ляецца на акругі, паветы, грамады (для хлапцоў) ці гурткі (для дзяўчатаў) і дружыны. У вадзінках ніжэй за акругу моладзь арганізуецца асобна, паводля роду і веку. Ступені веку наступныя: 10—14 год, 15 — 18 год і 19 — 20 год.

§ 5

### КІРАВАНЬНЕ

СБМ кіруецца паводля прынцыпу правадырства Шэфам Кіраўнічага Штабу СБМ, які прадстаўляець арганізацыю моладзі. Ён можа перадаць гэтае права каму іншаму. На дапамогу яму ствараецца Кіраўнічы Штаб, які складаецца з наступных аддзелаў:

Аддзел I Арганізацыя.
» II Прапаганда, прэса, школеньне, культура.
» III Сацыяльная праца і ахова здароўя.
» IV Фізычнае узгадаваньне.
» V Адміністрацыя.

Акругі кіруюцца акруговымі кіраўнікамі моладзі. Шэф Кіраўнічага Штабу, кіраўнікі аддзелаў Кіраўнічага Штабу і акруговыя кіраўнікі моладзі вызначаюцца Гэнэральным Камісарам.

Асабістыя супрацоўнікі акруговых кіраўнікоў моладзі, кіраўнікі адзінак у паветах і валасьцях вызначаюцца Шэфам Кіраўнічага Штабу із згоды акруговых камісараў.

Акруговыя кіраўнікі моладзі падначальваюцца толькі загадам Кіраўнічага Штабу. Як сябры наяўных пры акруговых камісарах дарадных штабаў, яны падлягаюць нагляду акруговых камісараў.

§ 6

### АДМІНІСТРАЦЫЯ

«Саюз Беларускае Моладзі» фінансуе свае бягучыя працы

із сяброўскіх складак,
» прыймовых складак,
» прыбыткаў ад імпрэзаў моладзі,
» падарункаў і ахвяраў,
» субсыдыяў, дадзеных нямецкімі уладамі.

Кіраўнікі адзінак адказныя за мэтазгоднае выдаткаваньне усіх сродкаў і інвэнтара. За рахунковую і гандлёвую адміністрацыю адказны адміністратар.

Адміністрацыя абапіраецца на адміністрацыйныя вызначэньні, якія яшчэ будуць выдадзеныя і зацьверджаныя.

§ 7

### СКЛАДКІ І СТРАХАВАНЬНЕ

Для пакрыцьця бягучых выдаткаў і страхаваньня моладзі ад няшчасных выпадкаў могуць зьбірацца сяброўскія складкі. Вышыня гэтых складкаў устанаўляецца Кіраўнічым Штабам.

§ 8

### УНІФОРМЫ, АДЗНАКІ І СЫМБАЛІ

Сябры СБМ маюць права насіць уніформы і адзнакі, якія устанаўляюцца Кіраўнічым Штабам. Адзінкі маюць сьцягі, якія таксама устанаўляюцца Кіраўнічым Штабам.

§ 9

### ЗАБАВЯЗАНЬНІ

Сябры забавязваюцца да выкананьня заданьняў у урачыстай форме складаньня пэўнае формулы арганізацыі моладзі «Саюз Беларускае Моладзі» прысягі. Гэтая формула устанаўляецца Шэфам Кіраўнічага Штабу СБМ для паасобных клясаў веку, для хлапцоў і дзяўчатаў.

§ 10

### НАГЛЯД, КАНТРОЛЬ І АХОВА

Дзейнасьць і службовыя справы «Саюзу Беларускае Моладзі» падлягаюць нагляду Гэнэральнага Камісара.

Адміністрацыя усіх фінансавых сродкаў падлягае кантролю Кіраўнічага Штабу і урадавых установаў.

§ 11

### КАНЦАВЫЯ ВЫЗНАЧЭНЬНІ

Гэты статут уваходзіць у сілу аднача́сна з зацьверджаньнем яго Гэнэральным Камісарам.

# АРГАНІЗАЦЫЙНЫ РЭГУЛЯМІН САЮЗУ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ

## РАЗЬДЗЕЛ I

### АДЗІНКІ СБМ

1. Сябры СБМ атрымваюць наступныя назовы (паводля клясы веку):

ад 10 да 14 год: малодшыя юнакі, малодшыя юначкі;

ад 15 да 18 год: юнакі, юначкі;

ад 19 да 20 год: старшыя юнакі, старшыя юначкі.

2. Адзінкі СБМ ствараюцца з моладзі аднаго роду і клясы веку. Яны наступныя (пачынаючы зьнізу):

| юнакі: | юначкі: |
|---|---|
| дружына | дружына |
| грамада | гурток |
| зьвяз | круг |

3. Дружына складаецца з 12 — 20 сяброў. Дружыны атрымваюць парадкавыя нумары унутры грамады (гуртка).

4. Ад 3 да 5 дружынаў складаюць грамаду (гурток). Грамады (гурткі) атрымаваюць іменьні слаўных беларусаў ці важных у беларускай гісторыі датаў.

5. У кажным павеце ёсьць па даным зьвязе (кругу) кажнага роду і клясы веку моладзі (разам 6). Калі павет вялікі, ён можа быць падзелены на сэкцыі.

## РАЗЬДЗЕЛ 2

### КІРАЎНІКІ СБМ

1. На чале дружыны стаіць дружыновы (дружыновая).

2. Грамаду кіруе грамадовы, гурток кіруе гуртковая.

3. Зьвяз кіруе зьвязовы, круг кіруе важатая.

4. Акруговы кіраўнік моладзі даручае зьвязоваму старшых юнакоў функцыі ці азначаныя заданьні паветавага кіраўніка моладзі. Тады апрача свае службовае ступені ён атрымвае назоў «групавод».

5. Акруговы кіраўнік моладзі упаўнаважваецца прызначаць із згоды Акруговага камісара дружыновых, грамадовых і гуртковых. Прызначаньне зьвязовых, важатых і групаводаў пакідаецца Кіраўнічаму Штабу СБМ.

6. Вышэйшыя кіраўнікі СБМ маюць наступныя службовыя ступені:

| | |
|---|---|
| падправаднік | падправадні́чка |
| праваднік | праваднічка |
| старшы праваднік | старшая праваднічка |

7. Шэф Кіраўнічага Штабу СБМ мае ступень: «шэф-праваднік».

8. Кіраўнікі носяць адзнакі свае службовае ступені і службовае функцыі.

## РАЗЬДЗЕЛ 3

### ПРЫЙМО СЯБРОЎ

1. Той, хто жадае увайсьці у Саюз Беларускае Моладзі, падаець аб гэтым у двух экзэмплярах заяву наступнага зьместу:

«Прашу прыняць мяне у рады Саюзу Беларускае Моладзі. Я маю шчырае жаданьне вучыцца служыць Беларускаму народу і Бацькаўшчыне і забавязваюся выконваць усе загады і указаньні маіх кіраўнікоў. Даю юнацкае слова гонару, што я арыйскага паходжаньня і беларускае нацыянальнае прыналежнасьці».

Заява падаецца на імя Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ на рукі дружыновага адпаведнае дружыны. Прыймо новых сяброў даручаецца Акруговаму кіраўніку моладзі.

2. Падавальнік заявы прыймаецца на кандыдата і прыцягваецца да працы дзеля праверу ягонае моцнае волі і жаданьня.

Кандыдат павінен пазнаць мэту і заданьні арганізацыі і арганізацыйны рэгулямін і вывучыць напамяць тэкст забавязаньня.

3. Калі кандыдацкі час, які трываець ад 1 да 6 месяцаў, удала пройдзены, тады кандыдат прыймаецца у сябры, складае перад Акруговым кіраўніком моладзі ці упаўнаважанай ім асобай урачыстае забавязаньне паводля § 9 статуту СБМ і атрымвае сяброўскую кніжачку.

4. Сябры СБМ аўтаматычна пераходзяць у вышэйшую групу, калі дасягнуць належнага веку і добра спраўляюцца з сваімі абавязкамі.

5. У дзень забавязаньня моладзі, які будзе устаноўлены загадам Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ, усе сябры, якія перайшлі у новую групу, складаюць урачыстае забавязаньне перад Акруговым кіраўнікам моладзі ці упаўнаважанай ім асобай.

6. Абавязкамі сяброў СБМ зьяўляецца выконваць усе загады і зазначаньні кіраўнікоў, браць самы актыўны удзел у працы, рэгулярна хадзіць на зборкі і імпрэзы і плаціць устаноўленую складку.

## РАЗЬДЗЕЛ 4

### УНІФОРМЫ, АДЗНАКІ І СЬЦЯГІ

1. У часе службы і пры урачыстасьцях сябры СБМ носяць уніформу, як вонкавы знак арганізацыйнае лучнасьці.

2. На левым прадплеччы сябры СБМ носяць трыкутнік з абазначэньнем іхнага зьвязу (кругу). Малодшае юнацтва носіць колер зялёны, юнацтва—сіні, старшае юнацтва — чырвоны. На трыкутніку юнакі маюць жолуд з двума дубовымі лісточкамі, юначкі — краску васілька.

3. Нарукаўнік СБМ мае шырыню 10 цм і складаецца з трох роўных і раўналежных палосак: белае, чырвонае і белае. На нарукаўніку зьмешчаны шчыт із жоўта-залацістым акантаваньнем, дзе на белым полі, перасечаным наўскасяк чырвонаю палоскаю, знаходзіцца залаты шасьцёхканцовы крыж.

4. Адзнака СБМ выглядае наступна: На бела-чырвона-белым ромбе зьмешчаны залаты шасьцёхканцовы крыж, які знаходзіцца на шчыце у коньніка на нацыянальным беларускім гэрбе Пагоня. Паверх крыжа — скрыжаваныя срэбраныя лапата і меч — сымбаль працы і змаганьня за шчасьце і дабрабыт Беларускага народу і Бацькаўшчыны. На знаку зьмешчаныя чорныя ініцыялы арганізацыі: СБМ. Увесь значок абведзены бела-чырвона-белым акантаваньнем.

Сябры носяць значок на левым баку грудзей і на галаўным уборы, як напамінак аб іхным вялікім абавязку працаваць і змагацца на дабро Беларускага народу, і краю, выростаць на добрых будучых грамадзян, і аб дадзеным на гэта забавязаньні.

5. Кажны зьвяз (круг) атрымвае свой сьцяг, які перахоўвае тая грамада (гурток), які найлепш адзначаўся на працягу апошняга кварталу. Пастанаўляець аб гэтым групавод.

6. Для упрыгожваньня памешканьняў у часе урачыстасьцяў ужываецца насьценны сьцяг з эмблемай СБМ удаўжкі палотнішча.

7. Узоры уніформаў, трыкутнікаў, нарукаўніка, службовых адзнакаў кіраўнікоў, значка СБМ, сьцягоў для зьвязоў (кругоў) і насьценнага сьцягу будуць пададзеныя асобна на рысунках з тэкставымі тлумачэньнямі.

## РАЗЬДЗЕЛ 5

### СЯБРОЎСКІЯ ДАЧЫНЕНЬНІ

1. Міжсобку сябры павінны захоўваць сьціслае сяброўства, не павінны сварыцца, але узаемна сабе дапамагаць, бо яны зьяўляюцца сябрамі аднае вялікае сям'і, якую гуртуе і захапляе адна і тая самая вялікая ідэя і воля.

2. У дачыненьнях да кіраўнікоў сябры павінны выяўляць пашану і бязумоўнае падначаленьне. Кажны загад павінен выконвацца хутка, дакладна і з ахвотаю.

3. Да сябе сябры зварачаюцца словамі: «сябра», «сяброўка» і на «ты», да кіраўнікоў — называючы службовую ступень і на «вы». Прыкладам, гаворыцца: Сябра Іван, падай мне кніжку. Дружыновы, дазвольце мне выйсьці. Шэф-правадпік, дазвольце мне прачытаць гэты ліст.

4. Прывітаньнем і разьвітаньнем зьяўляецца падняцьце правае рукі із словамі: «Жыве Беларусь!»— «Жыве!»

5. На падзяку за добрую службу ці працу адказваюць: «Служым Бацькаўшчыне!»

## РАЗЬДЗЕЛ 6

### СЛУЖБА

1. Дружыновы павінен прынамся раз на тыдзень мець службу у сваёй дружыне, г. зн. правесьці чародную зборку.

2. Грамада (гурток) зьбіраецца раз на месяц.

3. Служба уключаець узгадавальную гутарку дружыновага, страявыя заняткі, лекцыю з мінуўшчыны і сучаснасьці Беларускага народу і краю, спорт і гульні для фізычнага узмацненьня, мастацкую частку і экскурсію. Служба праводзіцца паводля навучальных плянаў, якія будуць распрацоўвацца Кіраўнічым Штабам СБМ.

4. Дружыновыя, грамадовыя і гуртковыя вядуць дзёньнікі аб сваёй працы і рэгулярна складаюць справаздачы старэйшаму кіраўніцтву.

5. Кажны сябра СБМ мае сяброўскую кніжачку, дзе запісваюцца важнейшыя дадзеныя аб ягонай працы, аб дасягненьнях, узнагародах і карах, аб фізычным разьвіцьці і г. д. Кніжачка разьлічаная на увесь час сяброўства і павінна зьяўляцца люстрам нацыянальна-патрыятычнага, маральнага, культурнага і фізычнага разьвіцьця ейнага собсьніка і стымулам да лепшае службы.

## РАЗЬДЗЕЛ 7

### КАНЦАВЫЯ ПАСТАНОВЫ

1. Органам Кіраўнічага Штабу СБМ зьяўляецца часапіс «Жыве Беларусь», які выдаецца раз або два разы на месяц Шэфам Кіраўнічага Штабу СБМ.

2. Для праводжаньня зборак, страявых і спартовых заняткаў ужываецца страявы рэгулямін СБМ.

3. Справаводзтва і справаздачнасьць Саюзу Беларускае Моладзі будзе рэгулявацца службовымі інструкцыямі Кіраўнічага Штабу СБМ, якія разам з загадамі Шэфа Кіраўнічага Штабу будуць публікавацца у «Дзёньніку загадаў Кіраўнічага Штабу СБМ».

4. Гэты арганізацыйны рэгулямін СБМ уваходзіць у сілу аднячасна із статутам Саюзу Беларускае Моладзі.

## ЗАГАД № 1

### ШЭФА КІРАЎНІЧАГА ШТАБУ СБМ

Гор. Менск 22 чырвеня 1943 г.

Сп. Гэнэральны Камісар Беларусі вызначыў мяне за Шэфа Кіраўнічага Штабу Саюзу Беларускае Моладзі.

З днём 22 чырвеня 1943 г. я абыймаю свае абавязкі.

За свайго заступніка вызначаю старшага правадніка Д. Стэльмаха.

(—) М. Ганько
шэф-праваднік

# ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕТАЎ
## ЮНАКА І ЮНАЧКІ

**1. Любі свой народ і родны край над усё на сьвеце і цэлае жыцьцё сваё ахвяруй на службу для ягонага шчасьця і дабрабыту.**

**2. Вывучай слаўную мінуўшчыну свайго народу, пазнавай прыгаство і багацьце свае Бацькаўшчыны і памятай, што яе вызвалялі нямецкія героі на загад Правадыра Адольфа Гітлера.**

**3. Шануй сваю родную мову, родныя песьні і казкі і дбай аб разьвіцьцё і пашырэньне беларускае культуры.**

**4. Дбай аб здароўе і чысьціню свайго цела і сьцеражыся п'янства, курэньня і разбэшчанасьці, бо Ты павінен захаваць Тваю сілу для Твайго народу.**

**5. Шануй і любі працу, бо толькі праца людзкога духу і рук стварае усё вялікае, добрае і прыгожае.**

**6. Будзь мужным і гордым змагаром за свае ідэалы, ламай усе перашкоды і не аддавайся у няволю слабасьці духу.**

**7. Трымай высака свой гонар і цурайся усіх, хто пэцкае сябе хлусьнёй, брыдкой лаянкай і ня трымае слова.**

**8. Слухай заўсёды сваіх кіраўнікоў, шануй старэйшых і старэнна выконвай нават найдрабнейшы абавязак, бо вялікія справы паўстаюць із драбніцаў.**

**9. Юнак! Памятай, што Ты будучы грамадзянін, вучыся сумленна жыць, шчыра працаваць і мужна змагацца.**

**Юначка! Памятай, што Ты будучая жонка і маці, вучыся быць вернай, гаспадарнай і працавітай.**

**10. Памятай, што шчасьце, гонар і слава Бацькаўшчыны вышэй і даражэй за дабрабыт і жыцьцё адзінкі і хто памірае за Бацькаўшчыну, той вечна жывець у народзе!**

---

# ДЛЯ ЦЯБЕ, МОЙ НАРОД!

**(В. Аганёк)**

Браты мае, арлы-сокалы!

Нас кліча магутны голас Крывічанскага народу.

Нас кліча слаўная мінуўшчына нашае Бацькаўшчыны.

Нас кліча нашая вольная і шчасьлівая будучыня.

Чуеце Вы гэты кліч нашага народу, голас нашае крыві?

Ён кажа нам: «Я—твой народ, ты з мяне нарадзіўся і жывеш тым, што ад мяне пазычыў. Што-ж ты мне за гэты дар дасі?»

Мы адкажам усе, як адзін:

Народзе мой беларускі! Для Цябе я жыву, для Цябе працую і за Цябе змагаюся, бо Ты мне даражэй за усё, што я знаю на сьвеце. Я магу жыць толькі у людзкой грамадзе, толькі у вялікай сям'і свайго народу і без яго я гіну, як рыба, выкінутая на бераг рэчкі. Я адзін — нічога, але мой народ — усё. Я сьмяротны, але мой народ павінен жыць вечна. Маё жыцьцё кароткае, але мой народ жывець і павінен жыць тысячагодзьдзі. Тая кроў, што плыве сяньня у маіх жылах, цякла калісьці у жылах маіх прадзедаў, натхняючы іх на вялікія чыны, і будзе некалі цячы у жылах маіх праўнукаў, якім я перадам у спадчыне слаўны сьцяг працы і змаганьня за мой народ і край. Я зьяўляюся адной маленькаю кропляю у вялікім няспынным патоку крывіцкіх пакаленьняў і ня дам перарвацца ягонаму імкліваму руху наперад.

Народзе мой! Я быў-бы няшчасны, годнай жалю і пагарды істотай, калі-б ня меў за мэту майго жыцьця Тваё жыцьцё, Тваю славу і гонар. Я жыву дзеля таго, каб кажны свой дзень і кажную гадзіну ахвяраваць для Цябе, каб кажны мой крок і кажны мой чын прыносіў Табе ня ганьбу і сорам, а гонар і славу.

Беларусь, мая Бацькаўшчына! Люблю я Цябе каханьнем палкім і моцным, як ніхто не кахае свае роднае маці. Калі-б я мог радзіцца і паміраць паводля свайго жаданьня, дык я не хацеў-бы нічога больш, як толькі, каб магчы сем разоў памерці за Тваё вызваленьне і восьмы раз нарадзіцца ізноў беларусам, каб дапамагаць у вадбудове Тваіх вызваленых прастораў.

Бяры-ж мяне на сваю службу, Бацькаўшчына, загадвай мне, мой народзе! Для Цябе я аддамся увесь. Табе ахвярую усё маё маладое сэрца, для Цябе я напружу мае сталёвыя грудзі. Сокалам узьляту увысь ходацца з цёмнымі хмарамі, разганяць іх магутнымі крыламі майго духу і кідаць на Твае зялёныя нівы-загоны залатыя касьнікі зыркага сонца праўды. Волатам выйду я разварочваць высокія скалы-каменьне, каб не загароджвалі яны Табе дарогі у вольны прастор, да шчасьця і волі. Ільвом буду бараніць Цябе ад лютых і прагавітых ворагаў і перш сам лягу трупам, чымся дам ягонай назе зганьбіць Твае сьвятыя парогі. Буду сьвечкай гарэць праз усё сваё жыцьцё на аўтары сьвятое службы Тваё.

Для Цябе, мой народ!

# МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ

*Беларускі нацыянальны гімн*

**Словы М. Краўцова** | **Мэлёдыя У. Тэраўскага**




Мы выйдзем шчыльнымі радамі
на вольны родны свой прастор, —
хай воля вечна будзе з намі,
а гвалту мы дамо адпор!

Няхай жыве магутны, сьмелы
наш беларускі родны дух,
штандар наш бел-чырвона-белы,
пакрый сабой народны рух.

На бой, за шчасьце і за волю
народу слаўнага свайго,
браты, цярпелі мы даволі, —
на бой усе да аднаго.

Імя і сілу беларуса
няхай пачуе й бачыць той,
хто сьмее нам нясьці прымусы
і першы выкліча на бой.

Браты, да шчасьця мы падходзім,
хай гром грыміць яшчэ мацней, —
ў крывавых муках мы народзім
жыцьцё Бацькоўшчыны сваей.

# ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ

Словы **К. Буйлы** (у скарачэньні)




Люблю наш край, старонку гэту,
дзе я радзіўся, падрастаў,
дзе першы раз пазнаў я шчасьце,
сьлязу нядолі праліваў.

Люблю народ наш беларускі,
і хаты ў зелені садоў,
залочаныя збожжам нівы,
шум нашых гаяў і лясоў.

І песьню родную люблю я,
што дзеўкі ў полі запяюць,
а тоны голасна над нівай
пераліваюцца, плывуць...

Усё ў краі тым сэрцу міла,
бо я люблю край родны мой,
дзе з шчасьцем першым я спазнаўся
і з гора першаю сьлязой.

**А. Зязюля**

# ПРЫСЯГА БЕЛАРУСА

**(Ніколі)**

Над гонар і славу,
над чары каханьня
народную справу
і перакананьне,
што розум дыктуе,
заўсёды я волю,
ня зраджу ніколі!

Хай хмара навісьне
над соннай зямлёю,
хай гора прыцісьне
зялезнай рукою, —
я роднае мовы
ня кіну ў нядолі,
ня зраджу ніколі.

Бушуе хай бура,
віхор хай злуецца,
хай вецер панура
завые на рэчцы, —
я роднага краю,
што рвецца да волі,
ня зраджу ніколі!

Хай гром з пярунамі
грыміць і страляе,
маланка агнямі
хай бліскае, зьзяе, —
свайго я народу —
бяз хлеба і волі —
ня зраджу ніколі!

Хай срэбра, дукаты
мне сыплюць пад ногі
і скажуць: «Багаты
будзь! Кінь род убогі!!» —
я плюну з пагардай,
народу-ж і волі
ня зраджу ніколі!

Да самага скону
усякім прымусам
і сіле прыгону
скажу: «Беларусам
па век застануся!»
Свае ўласнай волі
ня зраджу ніколі!

*Любі свой народ і родны край над усё на сьвеце і цэлае сваё жыцьцё ахвяруй на службу для ягонага шчасьця і дабрабыту.*



Беларускія юнакі наведваюць нямецкую сталіцу

## ПЕРШАЕ ПАДАРОЖЖА БЕЛАРУСКІХ ЮНАКОЎ ПА НЯМЕЧЧЫНЕ

Ад 30 красавіка да 15 траўня 1943 група 20 юнакоў з менскіх прадпрыёмстваў і 9 кіраўнікоў моладзі на чале з шэфам-праваднікам М. Ганько адбыла прыгожае і карыснае падарожжа па Нямеччыне — першае гэткага роду падарожжа беларускае моладзі. Шлях вёў праз горад Гэнрыха Ільва-Браўншвайг, праз тысячагадовы горад кайзэраў Госьляр, які сяньня называецца сталіцаю нямецкага сялянства, праз прамысловы горад Магдэбург і сталіцу Вяліканямеччыны і Новай Эўропы Бэрлін, адкуль юнакі зрабілі яшчэ выезд у славуты Потсдам.

Усюды гасьціннае спатканьне, мілыя сустрэчы з нямецкай моладзяй, а нават із прадстаўнікамі улады. На канчатак—прыймо у Дзяржаўным Кіраўніцтве Моладзі і у Дзяржаўнай Радыёстанцыі. Усяго таго, чаго нагледзеліся юнакі, нельга проста апісаць.

Па прыездзе у Менск для удзельнікаў было наладжана спатканьне з прадстаўнікамі нямецкіх уладаў у залі Краёвае Радыёстанцыі. Юнакі расказвалі прадстаўніком прэсы і праз радыё свае прыгожыя і багатыя уражаньні. Іх можна-б было каротка азагаловіць: Нямеччына — адзін вялікі горад у зялёным парку. Пад гэткім загалоўкам «Беларуская Газэта» і зьмясьціла свой рэпартаж аб падарожжы. Юнакоў у Нямеччыне ня толькі безьліч разоў фатаграфавалі (шмат здымкаў апублікавала нямецкая і беларуская прэса), але і зафільмавалі. Увесь Менск глядзеў ужо фільм аб наведзінах беларускіх юнакоў у Нямеччыне. Цікава будзе таксама прачытаць ілюстраваную брушуру аб гэтым падарожжы, якую склалі самі удзельнікі.

Шмат мілых успамінаў будуць мець юнакі. Але падарожжа дало таксама і вялікую карысьць: юнакі самі пераканаліся, якая прыгожая магутная Нямеччына, і выказалі сваё палкае жаданьне працаваць так, каб і наш беларускі край быў хутка гэткі самы.

В. Аг.

## КУРС ВЫШЭЙШЫХ КІРАЎНІКОЎ СБМ

У першай палавіне чырвеня 1943 (ад 1 да 16) адбываўся у Менску першы курс Саюзу Беларускае Моладзі, які падрыхтаваў 21 вышэйшага кіраўніка моладзі. Курсам загадваў кіраўнік Аддзелу Моладзі Гэнэральнага Камісарыяту банфюрэр Шульц, а заняткі праводзіў шэф-праваднік М. Ганько.

Хаця удзельнікі былі надзвычайна перагружаныя заняткамі, бо ад пабудкі а 6 г. да адбою а 22 г. ня мелі ані воднае вольнае часінкі, але ставіліся да заняткаў надзвычай старэнна і з ахвотаю выконвалі усе загады кіраўнікоў. Палітычна-узгадавальныя даклады, страявыя і спортавыя заняткі, службовы інструктаж, сьпеў і сяброўскія вечары займалі час ад уздыму да апушчэньня сьцягу, які бела-чырвона-белым арлом узьвіваўся над памешканьнем курсу.

Удзельнікі курсу мелі гонар вітаць у сябе высокіх гасьцей: сп. Гэнральнага Камісара В. Кубэ, кіраўніка І Галоўнага Аддзелу Баўэра, кіраўніка Аддзелу Палітыкі Лянгэра і іншых, а таксама і сп. рэдактара У. Казлоўскага. Шмат прадстаўнікоў нямецкіх уладаў рабілі даклады, а Акруговы камісар Менскай акругі др. Эрэнляйтнэр наладзіў для курсантаў векапомны вечар. Для яго гэта быў апошні вечар ягонага жыцьця, бо назаўтра ён быў у дарозе забіты злачынцамі—бандытамі.

Курс закончыўся урачыстым забавязаньнем удзельнікаў на службу Беларускаму народу і Бацькаўшчыне, якое прыймаў шэф-праваднік М. Ганько у прытымбыцьці высокіх нямецкіх гасьцей, і мілым сяброўскім вечарам.

З добрымі ведамі і з моцнаю воляю да працы разьехаліся кіраўнікі рыхтавацца да арганізацыі Саюзу Беларускае Моладзі. Іхны курс даў пачатак слаўнай ужо сяньня традыцыі.

В. Аг.

У дзень другіх угодкаў вызваленьня Беларусі ад жыда-бальшавізму адбылося урачыстае абвешчаньне Саюзу Беларускае Моладзі.

Урачыстасьць гэтая адбылася у перапоўненым высокімі нямецкімі і беларускімі гасьцьмі і школьнікамі беларускае сталіцы Менскім Гарадзкім Тэатры а 11г. дня і перадавалася праз радыё для усіх акругаў Беларусі.

Урачыстасьць пачалася уввэртурай М. Шчаглова Аркестру дырыгаваў сам паважаны аўтар. Старшы праваднік Д. Стэльмах прачытаў пралёг: «Для Цябе, мой народ», а хор юначак сьпяяў песьню: «Люблю наш край». Далей ішла групавая дэкламацыя верша «Разам». В. Лабача і фінал із беларускае сюіты кампазытара А. Туранкова.

На сцэну, якую займала група юнакоў у уніформах СБМ, абстаўленую краскамі і упрыгожаную беларускімі і нямецкімі сьцягамі, узышоў сп. Гэнэральны Камісар В. Кубэ. Пасьля свае глыбокае гістарычнае прамовы ён вызначыў шэфа-праваднік М. Ганько за Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ, а старшую праваднічку др. Н. Абрамаву за Кіраўнічку Юначак пры Кіраўнічым Штабе СБМ.

Пасьля адыйграньня нямецкіх гімнаў і перакладу прамовы у беларускую мову на сцэне зьявіўся Шэф Кіраўнічага Штабу СБМ Ганько, каб у гэтую гістарычную часіну сказаць сваю першую прамову і абрысаваць перад слухачамі мэту і заданьні СБМ. Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну. Сп. Гэнэральны Камісар прывітаўся з моладзяй, якая выступіла у уніформах СБМ, і пажадаў удачы у пачатай працы.

Увечары а 18 г. на могілках нямецкіх [illegible], загінутых у змаганьні супроць бальшавізму [illegible] вызваленьне Беларускага народу, адбылося [illegible] сымбалічнае урачыстае забавязаньне першае дружыны юнакоў і першае дружыны юначак. Шмат гасьцей — немцаў і беларусаў на чале із сп. Гэнэральным Камісарам было пры гэтым акце.

Пасьля адсьпяваньня «Беларусь, наша Маці—краіна» была прачытаная «Прысяга беларуса» А. Зязюлі. Шэф Кіраўнічага Штабу СБМ Ганько зьвярнуўся да сваіх першых сяброўак і сяброў із палкімі словамі закліку да працы і змаганьня на дабро і славу свайго народу і Бацькаўшчыны і падчыркнуў вялізарнае значэньне прысягі, якую штогоду будзе складаць перад сваім народам беларуская моладзь. Ушаноўваючы памяць тых, хто сваёю крывёй і жыцьцём здабыў для Беларускага народу вызваленьне, юнакі і юначкі злажылі вянкі на сьвежай магіле трагічна загінутага прыяцеля беларускае моладзі др. Эрэнляйтнэра і прыступілі да сымбалічнага акту забавязаньня, які прыймаў шэф-праваднік. Хваляваньне кажнага і кажнай з іх найлепш сьветчыла аб тым, як яны адчувалі вялікую важнасьць і павагу гэтага мамэнту.

Пасьля адчытаньня 10 запаветаў юнака і юначкі і адсьпяваньня беларускага нацыянальнага гімну госьці і удзельнікі урачыстасьці ад'ехалі у горад.

Гэтак закончыўся гэты вялікі дзень, пакінуўшы шмат хвалюючых уражаньняў і векапомных успамінаў. Для беларускае моладзі і для Беларускага народу гэта быў дзень вялікага гістарычнага значаньня.

## БЕЛАРУСКАЯ РАДА ДАВЕРУ

27 чырвеня 1943 г. сп. Гэнэральны Камісар В. Кубэ у прытымбыцьці вышэйшых кіраўнікоў нямецкага цывільнага кіраўніцтва і беларускіх дэлегацыяў ад усіх акругаў Беларусі правёў урачыстае пакліканьне 15 сяброў Беларускае Рады Даверу, адзначыўшы іх адначасна адзнакамі заслугі для усходніх народаў.

У ліку сяброў Рады знаходзяцца Шэф Кіраўнічага Штабу СБМ М. Ганько і Кіраўнічка Юначак пры Кіраўнічым Штабе СБМ др. Н. Абрамава. Для Саюзу Беларускае Моладзі гэта вялікі гонар і практычны плюс.

В. Аг.



Юначкі машыруюць праз нямецкі горад



Беларускай песьняй выказваюць юначкі сваё захапленьне нямецкімі краявідамі

## БЕЛАРУСКІЯ ЮНАЧКІ АГЛЯДАЮЦЬ НЯМЕЧЧЫНУ

На працягу 14 дзён (ад 27 чырвеня да 10 ліпеня 1943) група 20 юначак, на чале із ст. праваднічкай др. Н. Абрамавай, адбывала падарожжа па Нямеччыне. Група наведала паўдзённую Нямеччыну і аглядала прыгажосьць Шварцвальду. Гарады: Штутгарт, Гайдэнгайм, Ульм, Гайдэльбэрг, Бадэн-Бадэн, Фрайбург, Штрасбург і Бэрлін гасьцінна сустракалі падарожніцаў з Беларусі. Падрыхтаваныя да кіраўнічае працы сярод беларускіх юначак, яны асабліва цікавіліся працай школаў, лягераў і курсаў, дзе адбываецца узгадаваньне нямецкіх дзяўчат. Гэтая дзялянка нямецкага жыцьця пакінула векапомнае уражаньне: прыгожыя школы, адмысловае абсталяваньне, высакакультурны дазнаны склад узгадавальнікаў дружная, гатовая да працы і змаганьня за сваю Бацькаўшчыну моладзь.

Праз усё падарожжа беларускія юначкі наглядалі надзвычайную чысьціню і прыгажосьць нямецкіх вёсак і гардоў, агульны парадак, высокую культурнасьць народу, агульны дабрабыт, вясёлы настрой, старэнную працавітасьць і узорнае сяброўства моладзі. Юначкі лятуцяць цяпер аб тым, каб сваю Бацькаўшчыну — Беларусь узьняць да узроўню нямецкага жыцьця.

Юначак вельмі гасьцінна сустракалі у Нямеччыне. На іхны гонар ладзілі урачыстыя сустрэчы Дзяржаўная Рэфэрэнтка Юначак Юта Рудыгэр, кіраўнік Аддзелу Моладзі Міністэрства Усходу гаўптбанфюрэр Нікэль, акруговыя кіраўнікі цывільнае улады Віртэмбэргу і Бадэну. Вельмі міла сустрэла юначак рэдакцыя газэты «Раніца» і Беларускі Камітэт у Бэрліне.

На усіх дарогах Нямеччыны, ва усіх гарадох і на усіх урачыстасьцях бадзёра і гучна пяялі беларускія юначкі песьні свае Радзімы.

Па звароце задаволенае падарожжам групы у Менск яе ветліва прыняў сп. Гэнэральны Камісар В. Кубэ.

У хуткім часе выйдзе брашура успамінаў аб падарожжы. Аўтары — удзельніцы падарожжа.

Н. А.

## СПОРТАВЫ КУРС ЮНАКОЎ У МЕНСКУ

Саюз Беларускае Моладзі падумаў ужо аб фізычным узгадаваньні юнакоў. Ад 1 да 19 ліпеня 1943 у Менску адбыўся першы курс спартавых кіраўнікоў СБМ, які скончыла 29 юнакоў. Курс кіраваў ст. праваднік Д. Стэльмах.

Курсанты ад першага дня выявілі вялікую ахвоту да заняткаў і ня страцілі яе да апошняе лекцыі. Надзеўшы уніформу СБМ, яны адразу пачулі сябе сябрамі гэтай арганізацыі.

Кіраўнік курсу выразна ставіў на кажны дзень азначаную мэту узгадавальнае працы. Побач з інтэнсыўнымі спортавымі заняткамі на стадыёне праводзілася і маральна-палітычнае узгадаваньне і прывучаньне да чысьціні, парадку і дысцыпліны. Шмат лекцыяў зрабіў шэф-праваднік, а таксама і сябры Кіраўнічага Штабу СБМ. Курсанты слухалі заўсёды уважліва і выяўлялі вялікую цікавасьць.

Была нагода і магчымасьць вывучаць родныя беларускія песьні. З імі юнакі маршыравалі калёнаю па вуліцах, калі ішлі на стадыён ці на рэчку купацца. Пялі так прыгожа і вясёла, што ажно усе менскія дзяўчаты і хлапчукі аглядаліся...

Лягер быў заўсёды поўны гасьцей, немцаў і беларусаў. Яны памагалі часта добрымі радамі і заўвагамі. Шмат прылажыў свае працы спортавы кіраўнік Пэтэрс. Ён прыклаў усе высілкі, каб навучыць юнакоў нязьлічоным гульням і фізкультурным практыкаваньням.

На канчатак курсу было наладжанае спортавае сьвята, на якім курсанты паказалі свае дасягненьні. Спаборніцтва выпала вельмі цікава і прыцягнула увагу шмат гасьцей.

Перад ад'ездам на працу у свае акругі курсанты складалі перад шэфам-правадніком урачыстае юнацкае забавязаньне. Яны разьехаліся із поўнай сьведамасьцяй сваіх абавязкаў і з вялікім жаданьнем гуртаваць сваіх сяброў у радах СБМ.

Д. С. і Ф. К.

Ціха вакол, толькі векавыя сосны сваім старым гальлём шумелі, ды раз-по-раз хвалі вады адбіваліся аб бераг возера і з плескам адплывалі назад...

Сонейка узыйшло, кінуўшы сноп сьвятла на Альбэртынскі лягер. У гэтым сьвятле зазалаціліся два пышныя будынкі былога графскага палацу. Як брат із сястрой, стаяць насупраць сябе лягеры юнакоў і юначак.

6 гадзін. Чуваць сыгнал сьвістка. У вадзін мамэнт усё загаманіла, замітусілася, чуецца тупат ног і за часінку на дварэ стаяць бадзёрыя тры шэрагі, падрыхтаваныя да ранішняе гімнастыкі. На дадзены сыгнал тыя-ж самыя тры шэрагі ізноў стаяць.

Ціха, але горда стаіць моладзь на пляцы перад сьцягам. Чуецца каманда: «Направа глянь!» і паволі падымаецца угару сьцяг, ветрык падхапляець яго, і ён пераліваецца у сонцы сваім бел-чырвонабелым колерам.

Працоўны дзень пачаўся. Тут страявыя заняткі, спорт і песьні. І калі юнакі запяюць «У гушчарах», дык гэтая песьня гучыць, як непераможны гімн юнацкае душы: «Не маскаль, бальшавік, ані ляхі, але ты нас вядзеш да зары!» — адбіваецца рэхам аб Альбэртынскі лес, на зло бандытам.

Побач із страявымі заняткамі, былі і працоўныя гадзіны у лягеры, рэфэраты, узгадавальныя гутаркі, сьпевы і бадай штовечару арганізаваліся сяброўскія вечарыны. Тут можна было бачыць бяспрыкладнае сяброўства абодвух лягераў і ганарлівыя выперадкі: хто лепей, хто цікавей? На сяброўскіх вечарох можна было пачуць прыгожую «Ганулю», патрыятычную «Пагоню», вясёлую «Каліну» і лірычную «Зорку Вэнэру», можна было паглядзець нашыя народныя танцы: «Лявоніху», «Крыжачок» і «Польку Янка». Часта—густа упляталіся прыгожыя расказы і вясёлыя жарты.

Было што паказаць госьцям, якія часта наведвалі Альбэртын: шэф-праваднік Ганько, банфюрэр Шульц, Слонімскі акруговы камісар Эрэн. Яны пабачылі, як прыгожа маршыравалі юнакі, як цудоўна пялі і танцавалі юначкі, як хутка рабіліся зборкі і яшчэ хутчэй разьбягаліся па камандзе: «У тыл разыйсьціся!» Усё рабілася з дакладнасьцяй да аднае мінуты.

Госьці пакідалі лягер з найлепшымі уражаньнямі.

Дзівіўся Слонім, калі лагер выбіраўся на пахавіны 14-гадовага сябры СБМ Язэпа Н., які трагічна згінуў ад няшчаснага выпадку. На сваіх плячох юнакі занесьлі дамавіну на могільнік. Шэф-праваднік сказаў словы разьвітаньня. На магіле легла высокая груда вянкоў ад сяброўак і сяброў із Саюзу Беларускае Моладзі. Не, ён не памёр, бо ён меў гэтульki прыяцеляў, якія на яго не забудуцца!..

Тры тыдні жыцьця у лягеры прайшлі, як адзін дзень.

Набыўшы юнацкую выпраўку і добрыя веды, якія павінен мець малодшы кіраўнік і кіраўнічка моладзі, курсанты у часе урачыстага забавязаньня перад шэфам-праваднікам, кіраўніком лягеру праваднікам В. Цыкуновым і кіраўнікамі грамадаў выказалі свае запраўды шчырае жаданьне працаваць для дабра Беларускага народу і Бацькаўшчыны і шырыць Саюз Беларускае Моладзі. Беларускім нацыянальным гімнам закончыўся апошні парад перад сьцягам.

У вакругі і паветы разьехалася моцная група 200 малодшых кіраўнікоў і кіраўнічак СБМ. Яны будуць гуртаваць і весьці за сабою расьсьпяваныя калёны беларускіх хлапцоў і дзяўчат. І часта будуць успамінаць белы палац у зялёным падку над возерам...

Алесь К.

---

## ЗАГАД № 3
## ШЭФА КІРАЎНІЧАГА ШТАБУ СБМ

Гор. Менск — 22 чырвеня 1943 г.

### § 1
### ФОРМУЛЫ ЗАБАВЯЗАНЬНЯ

Уводжу наступныя формулы забавязаньня для сяброў СБМ (аднолькавыя для юнакоў і юначак):

Малодшае юнацтва (ад 10 да 14 год): «Ад шчырага сэрца жадаю вучыцца служыць Беларускаму народу і Бацькаўшчыне і хачу заўсёды быць паслухмяным (ай) маім кіраўніком».

Юнацтва (ад 15 да 18 год): «Ад шчырага сэрца жадаю служыць і працаваць для Беларускага народу і Бацькаўшчыны і хачу заўсёды быць паслухмяным (ай) маім кіраўніком».

Старшае юнацтва (ад 19 да 20 год): «Маю шчырае жаданьне і моцную волю служыць, працаваць і змагацца за шчасьце і дабрабыт Беларускага народу і Бацькаўшчыны і хачу заўсёды быць паслухмяным (ай) маім кіраўніком».

### § 2
### ДЗЕНЬ ЗАБАВЯЗАНЬНЯ

Днём забавязаньня моладзі вызначаю дзень закладзінаў СБМ, сьвята трыумфу сонца і сьвятла і гадавіну паходу супроць жыда-бальшавізму— 22 чырвеня.

### § 3
### ІНСТРУКЦЫЯ АБ ЗАБАВЯЗАНЬНІ

Бліжэйшыя зазначаньні аб правядзеньні забавязаньня падаець «Інструкцыя аб забавязаньні».

(—) М. Ганько
шэф-праваднік

---

## ІНСТРУКЦЫЯ АБ ЗАБАВЯЗАНЬНІ

1. У дзень забавязаньня моладзі новае 10-гадовае пакаленьне юнакоў і юначак прыймаецца у СБМ у малодшае юнацтва. 14-гадовыя сябры пераходзяць у юнацтва. 18-гадовыя пераходзяць у старшае юнацтва.

2. Забавязаньне складае толькі той, хто давёў, што ён запраўды мае шчырае жаданьне і моцную волю актыўна працаваць у СБМ і быць паслухмяным кіраўніком і адказваець усім патрабаваньням статуту і арганізацыйнага рэгуляміну.

3. Забавязаньне складаецца у часе урачыстае зборкі перад сьцягам або пры купалаўскім агні. Акт забавязаньня пачынаецца агульнай песьняй, адчытаньнем належных паводля зьместу, сэнтэнцыяў ці урыўкаў з твораў нашых нацыянальных герояў і песьняроў і прамовай Акруговага кіраўніка моладзі (ці ягонага упаўнаважанага), у часе якой ушаноўваецца памяць загінутых у змаганьні супроць бальшавізму і за волю і будучыню Беларусі. Пасьля акту забавязаньня адчытваюцца 10 запаветаў юнака і юначкі і сьпяваюцца беларускі нацыянальны гімн і юнацкая песьня.

4. Забавязаньне прыймаецца індывідуальна, але у страі. Юнак (юначка) кажа формулу забавязаньня з паднятай на вышыню правага вока выпрастанай правай рукой. Акруговы кіраўнік моладзі (ці ягоны упаўнаважаны) кажа у часе прыняцьця: «Прыймаю цябе у малодшае юнацтва (юнацтва, старшае юнацтва) Саюзу Беларускае Моладзі», на што юнак (юначка), адказвае: «Служу Бацькаўшчыне!» Новыя сябры атрымваюць эмблему СБМ, сяброўскую кніжачку і пасьведчаньне.

5. Новыя адзінкі СБМ атрымваюць у дзень забавязаньня сьцягі, якія перадаюцца ад імя Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ Акруговым кіраўніком моладзі.

# ЗЬМЕСТ



„Žyvie Biełaruś!" Weißruthenische Jugendführer-Zeitschrift. Erscheint einmal oder zweimal monatlich.

**Herausgeber:** M. Hanjko, Chef des Führungsstabes des Weißruthenischen Jugendwerkes.

**Schriftleitung:** Wladimir Kuschell.

**Verlag:** Presseverlag Minsk G.m.b.H.

**Druck:** Minsker Verlags- und Druckerei G.m.b.H.

**«Жыве Беларусь!»** Часапіс для кіраўнікоў моладзі. Выходзіць раз або два разы на месяц.

**Выдавец:** М. Ганько, Шэф Кіраўнічага Штабу саюзу Беларускае Моладзі.

**Рэдакцыя:** Уладзімер Кушэль.

**Выдавецтва:** Прэсавае Выдавецтва, Менск Тав. з абм. адк.

**Друкарня:** Менскае Выдавецкае і Друкарскае Таварыства з абм. адк.